# Каму патрэбны расійскія ядзерныя ракеты ў Беларусі?

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

№ 40 (622)
Пятніца, 5 сакавіка 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

# Народная Воля

Кошт: у кіёсках і крамах — 10000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.



## Яны сёння — за кратамі!

**Улады іх кінулі ў турму за тое, што яны — за выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 1999 годзе.**

**Віктар ГАНЧАР — старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

**Барыс ГЮНТЭР — сакратар Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

**Анатоль ГУРЫНОВІЧ — член Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ — кіраўнік праваахоўнага цэнтра "Вясна-96".**

### Ліст з рэдакцыі

## Будзем разам!

Ну і жыццё: учора пакінуў рэдакцыю а палове першай ночы, а сёння зноў работы да апоўначы. З-за звыштэрміновых праблем не змог звярнуцца да Вас, шаноўныя чытачы, раней, каб сказаць: давайце і ў другім квартале будзем разам!

Вы — з "Народнай воляй",

"Народная воля" — з Вамі!

Я разумею: мала сёння такіх сем'яў, бюджэт якіх дазваляе з лёгкасцю знайсці 185 тысяч рублёў, каб падпісацца, скажам, на красавік. Але ці ж мы, журналісты, у гэтым вінаваты?

Вы ведаеце, у якіх умовах выдаецца "Народная воля" — да сённяшняга часу ёй забаронена тыражавацца ў друкарні выдавецтва "Беларускі Дом друку". Таго самага выдавецтва, якое падначалена кіраўніцтву справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У выніку нам нават на друкаванне газеты даводзіцца выкладваць значна болей сродкаў, чым дзяржаўным газетам.

А колькі іншых перашкод чыніцца "Народнай волі"!

Безупынна растуць цэны не толькі на каўбасу і хлеб, але і на тое, без чаго немагчыма выпусціць газету. Так, кошт паперы толькі за мінулы год вырас амаль у 10 разоў! Сёння за тону паперы даводзіцца плаціць у сярэднім 200 мільёнаў рублёў.

Аб тым, што кошт падпіскі будзе расці, мы паведамлялі яшчэ некалькі месяцаў назад і пасяброўску раілі: афармляйце, калі ласка, падпіску адразу на паўгоддзе. Хто гэта зрабіў — выйграў! Але значнай частцы чытачоў трэба ўсё ж аформіць падпіску па-новаму. Заўважым, дзяржаўныя газеты таксама вымушаны пайсці на павелічэнне падпісной цаны.

Паверце: мы зрабілі ўсё, што маглі, каб для большасці з Вас, паважаныя прыхільнікі "Народнай волі", наша адзіная недзяржаўная штодзённая рэспубліканская газета аказалася даступнай.

Я звяртаюся да людзей, якія жывуць больш-менш заможна: дапамажыце, калі ласка, падпісацца на "Народную волю" тым, хто мае пэўныя фінансавыя цяжкасці.

Я прашу вас, кіраўнікі арганізацый, устаноў, калгасаў і саўгасаў: аформіце падпіску на "Народную волю" лепшым сваім працаўнікам.

Мае словы да бізнесменаў: зрабіце добры падарунак у выглядзе падпіскі на "Народную волю" тым, каму сёння вельмі і вельмі складана знайсці сродкі на падпіску.

Парада мужчынам — ці ж не прыемна будзе вашай знаёмай ці каханай атрымаць разам з кветкамі падпісны квіток?

Шкада, але да заканчэння падпіскі засталіся лічаныя дні. **НЕ СПАЗНІЦЕСЯ!**

Усе — на пошту альбо ў любы падпісны пункт "Белсаюздруку".

Кошт падпіскі: на месяц — 185.000 рублёў, на квартал — 555.000.

Індэкс "Народнай волі" — 63222.

**Вы — з "Народнай воляй",**
**"Народная воля" — з Вамі!**

Я люблю Вас, шаноўныя чытачы, і шчыра жадаю Вам шчасця!

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**заснавальнік і галоўны рэдактар газеты "Народная воля".**

## Зварот

### да дзяржаўных служачых, работнікаў праваахоўных органаў і суддзяў Рэспублікі Беларусь!

Паважаныя панове!

Вам, як нікому іншаму, вядома, што А.Лукашэнка быў абраны прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь на 5 гадоў. Тэрмін яго прэзідэнцтва заканчваецца 20 ліпеня 1999 года. І нельга прамыя тайныя выбары замяніць нейкім рэферэндумам, тым больш што ён быў праведзены з вялікімі парушэннямі Канстытуцыі і заканадаўства Рэспублікі Беларусь і яго вынікі не прызнаныя Еўрасаюзам, АБСЕ і іншымі прадстаўнікамі міжнароднай супольнасці.

У сувязі са сказаным і згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прызначыў чарговыя выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на 16 мая 1999 года. Для арганізацыі і правядзення прэзідэнцкіх чарговых выбараў створаны Цэнтральная і ва ўсіх абласцях і раёнах рэспублікі тэрытарыяльныя камісіі. Ужо зарэгістраваны і ініцыятыўныя групы кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Зянона Пазьняка і Міхаіла Чыгіра.

Аднак, як сведчаць падзеі апошніх дзён, з боку створанага Лукашэнкам рэжыму прымаюцца намаганні на зрыў названых выбараў. Пры гэтым вераломства рэжыму перайшло ўсе межы. Сёння ў турме знаходзяцца старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар і яе члены: Барыс Гюнтэр, Анатоль Гурыновіч. Многія аштрафаваны на вялізныя сумы — ад 15 да 30 мільёнаў рублёў. Робіцца ўціск на членаў тэрытарыяльных камісій і незалежныя сродкі масавай інфармацыі.

Пералічаныя дзеянні па зрыве прэзідэнцкіх выбараў, павелічэнне колькасці парушэнняў іншых правоў чалавека, заявы А.Лукашэнкі аб неабходнасці вяртання ў рэспубліку ядзернай зброі нельга кваліфікаваць інакш як агонію рэжыму, які давёў эканоміку краіны да разрухі, а яе жыхароў — да нябачанага з ваенных часоў збяднення.

Гістарычны вопыт сведчыць, што гэткія (таталітарныя) рэжымы абавязкова знікаюць — раней ці пазней — як нежыццяздольныя. Менавіта гэта чакае і рэжым, створаны Лукашэнкам. І мяне, як старшыню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і чалавека з вялікім жыццёвым вопытам, вельмі трывожыць і заклапочвае тое, чаму гэтага не разумеюць і ўцягваюцца ў грубае парушэнне заканадаўства, у прыватнасці, зрыў прызначаных Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь прэзідэнцкіх выбараў многія дзяржаўныя служачыя, работнікі праваахоўных органаў і нават суддзі, для якіх выкананне закона павінна быць святой справай.

Няўжо вы думаеце, што за тое злачынства, якое вы робіце сёння супраць свайго народа дзеля сваіх карысных мэтаў, вам не прыйдзецца адказваць?

Няўжо вас ніяк не вучыць суд над дамачаўскім памагатым гітлераўскага рэжыму? Той не змог схавацца ад пакарання за здзейсненыя злачынствы ў гады Вялікай Айчыннай вайны нават у далёкай ад Беларусі Англіі і атрымаў сваё праз больш як 50 гадоў. Памятайце, не будзе тэрміну даўнасці і ў адносінах да вашых злачынстваў.

А калі хто з вас сам сумленны чалавек і трапіў на службу дыктатарскаму рэжыму па нейкім непаразуменні, дык тым больш, — навошта вам падтрымліваць зараз і адказваць у далейшым за таго, хто антыканстытуцыйным шляхам узурпіраваў уладу і не можа з ёю аніяк расстацца?

Набярыцеся мужнасці і скіньце з сябе цяжар страху! Вы адчуеце палёгку на душы і з надзеяй станеце глядзець у будучыню.

Панове! Падумайце не толькі аб сваім лёсе, але і аб лёсе вашых дзяцей і ўнукаў. Не кладзіце на іх пляму ганьбы за ваш саўдзел у чорных справах дыктатарскага рэжыму. Задумайцеся над тым, што яны скажуць вам, калі гэты антынародны рэжым апынецца на сметніку гісторыі і наша краіна стане вольнай дэмакратычнай прававой дзяржаваю, як таго і патрабуе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь!

А сведчаннем таго, што гэта будзе, і ў хуткім часе, з'яўляецца ахапіўшы вас страх перад будучыняй. А галоўнае — дзеянні па вяртанні на канстытуцыйны шлях развіцця Рэспублікі Беларусь тых, каго вы сёння спрабуеце запалохаць. Дарэчы, больш зрабіць вы ўжо нічога не можаце. Ваш час заканчваецца 20 ліпеня 1999 года.

Адумайцеся і спыніцеся, пакуль не позна!

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШАРЭЦКІ**

**3 сакавіка 1999 года**
**г.Мінск**

## Сацыял-дэмакраты ідуць на мітынг

Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Мікалай Статкевіч і старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай моладзі "Маладая Грамада" Сяргей Марцэлеў накіравалі ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне ў нядзелю 14 сакавіка дэманстрацыі і мітынгу з нагоды Дня Канстытуцыі. Калі з боку ўлад будзе дазвол, то арганізатары мерапрыемства, якое плануецца пачаць у 13.00, разлічваюць на ўдзел у ім да сямі тысяч чалавек. Дэманстранты пройдуць па праспекце Францішка Скарыны ад кінатэатра "Кастрычнік" да парка Янкі Купалы, дзе адбудзецца мітынг. Масавую акцыю ў гонар 15 сакавіка 1994 года, калі быў прыняты Асноўны Закон нашай дзяржавы, беларускія сацыял-дэмакраты праводзяць трэці год запар.

### Дожились...

## Сыр только для инвалидов

Уважаемая редакция!

Зашел я как-то в магазин "Узвышша", что по проспекту Скорины, и увидел там такое объявление: "Сыр продается только инвалидам I группы по спискам Ленинского р-на". Ответьте, пожалуйста, на два вопроса:

1. В какой еще стране мира надо быть инвалидом I группы, чтобы съесть кусок сыра?

2. Едят ли сыр наши правители?

С уважением

**А.МОРОЗОВСКИЙ.**

*Минск.*

### Надвор'е

**5 і 6 сакавіка на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. 5-га — пераважна без ападкаў, месцамі туман; 6-га — месцамі кароткачасовы дождж. Вецер паўднёвы, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +1...+6, удзень — +6...+11, 6-га на захадзе рэспублікі +2...+7.**

### Факт

*На очередной коллегии Комитета государственного контроля был, что называется, раскрыт "заговор" против белорусского трактора. Следуя традиционному протоколу, госконтролеры со всей серьезностью* ***"рассмотрели вопрос о допущенных просчетах Министерства промышленности, Министерства сельского хозяйства и продовольствия, ПО "Минский тракторный завод" и облсельхозпродов при реализации тракторов по декларированным ценам"****. В итоге был определен круг виновных лиц из числа хозяйственных и региональных элит, а также меры и характер воспитательного воздействия на виновников.*

Михаил ПОДОЛЯК

Комментарий

## Попали под трактор

### Начинается чистка в рядах хозяйственной номенклатуры

Вот и дождалась заинтересованная публика массовых репрессий власти против собственной номенклатуры. Очевидно, что полностью отделив в свое время демократическую оппозицию от участия в управлении государством, правящая элита добровольно взвалила на собственные плечи ответственность за происходящие в республике процессы. Понятно, что рано или поздно она должна была предоставить широкой общественности виновных в нынешнем плачевном состоянии народного хозяйства. Единичные случаи, вроде публичного ареста Василия Леонова или показательной отставки его преемника на сельскохозяйственном поприще Ивана Шаколо, не в счет. Общественность ждала массового покаяния и массового наказания ответственных за развал "динамично развивающейся национальной экономики".

По предварительным данным, уже в ближайшие дни со своими теплыми чиновничьими креслами расстанутся *заместитель министра промышленности В.Галко, заместитель генерального директора ПО "Минский тракторный завод"*, курировавший вопросы маркетинга и сбыта *В.Яцковский, заместитель генерального директора ПО "Гомельоблагропромтехника" А.Ком, заместитель директора ОАО "Калинковичская райагропромтехника" И.Руткевич, директор МП "Обухово-сервис" Н.Казакевич, заместитель директора борисовского АП "Агропромтехника" Л.Колосовский.* Впрочем, с этими руководителями все более-менее ясно — на их текущей профессиональной биографии просто появится скромная запись: *"освободить от занимаемой должности в связи..."* Скорее всего, у кое-кого из нынешних отставников появится приписка *"без права занимать руководящие должности в течение..."* Но в итоговом документе коллегии есть и куда более загадочная резолюция. Скажем, что на самом деле означает формулировка *"определить меру ответственности"*, примененная в отношении *генерального директора МТЗ* ***М.Леонова****, заместителя министра* ***Ф.Минько*** *и генерального директора РО "Белагропромтехника"* ***Ф.Петруковича***. Может статься, проверяющие структуры просто не успели подсчитать убытки, причиненные этими господами белорусской экономике. А потому мера ответственности указанных товарищей будет напрямую зависеть от метража их личных квартир, успешного участия в "подковерных" драчках и т.п.

Тотальный кризис первым делом ударил по хозяйственникам, и то, что власти предприняли силовую атаку именно на хозяйственную элиту, не вызывает удивления. Ее очень даже запросто можно обвинить в непрофессионализме, корыстолюбии и злоупотреблениях. Понятно также, что массовые увольнения — это только начало "большого пути". Кое-кого по итогам проверки надолго посадят в следственные изоляторы. Особенно если обнаружится, что из отдельных регионов трактора по демпинговым ценам уходили в российское приграничье. Не зря, наверное, Комитет госконтроля гораздо пристальнее изучает "меру ответственности" витебских руководителей. Остается добавить, что на коллегии речь шла о хищении продукции на на несколько сот тысяч долларов.

Как известно, белорусский трактор стал чуть ли не символом республики. Можно даже сказать, что продукция МТЗ, "Горизонта", "Интеграла", завода холодильников, солигорских шахтеров да еще пары-тройки предприятий, собственно, и формировали наш экономический потенциал. Мы искренне гордились массовым и серийным производством "краснотелых" сельскохозяйственных машин — гордились качеством и ценой в восемь-десять тысяч долларов за единицу. Правда, иногда белорусские государственные бизнесмены заключали сделки весьма сомнительного свойства. Скажем, отгрузка большой партии тракторов в Пакистан не принесла республике абсолютно никакой прибыли. Впрочем, свой внешнеэкономический ресурс тракторостроители чрезвычайно быстро исчерпали — польские, балтийские, украинские сельскохозяйственные угодья заняли куда более дешевые и прогрессивные "голландцы", "немцы", "бельгийцы". Сама же Восточная Европа также вовсю начала развивать рынок производства сельскохозяйственной техники — особенно в этом преуспели Чехия и Болгария. Единственным внешним рынком сбыта белорусских тракторов оставалась Россия. Но, как известно, подавляющее большинство российских сельхозрегионов не в состоянии оплачивать поставку "родной белорусской техники". И несмотря на потуги белорусских коммивояжеров, а также "интеграционные спичи" белорусского руководства и российских региональных лидеров, объемы тракторного экспорта неуклонно снижались.

Потерпев поражения на экспортном направлении, руководство республики приняло решение полностью переключиться на внутренний рынок потребителей сельхозтехники. Прошлогодней весной через региональные филиалы "Агротехники" максимальное число тракторов распространялось по конкретным хозяйствам. Речь шла, так сказать, о своеобразном "тракторном" кредите колхозам и совхозам под будущие доходы от урожая. Государство предлагало крестьянам трактора по цене 8 тысяч долларов вместо рыночных 11 с оплатой в белорусских рублях по... курсу Национального банка. Получалось, что чиновники и районные снабженцы продавали трактора колхозам ниже реальной цены в три-четыре раза. Наиболее одаренные чиновники по праву оценили подобное ноу-хау: в республике началась массовая перепродажа "уцененных" МТЗ-82 через цепь посредников. Навар, понятное дело, оставался неучтенным. По некоторым данным, несколько сот тысяч наших машин в разное время убыло также и за пределы республики.

По сути, государство уже давно взяло на себя важнейшую функцию — вместо рынка определять наши спрос и потребление. По задумке политической верхушки, свою неликвидную продукцию предприятия обязаны отправлять по указанным потребительским адресам через организацию-посредника. Оплата же за отправленную продукцию производится из бюджета и также через уполномоченные посреднические конторы. Таким образом, предложенный государством механизм позволил создать определенный товарный круговорот по всей республике — лежалый товар начинает двигаться с места на место, разгружая тем самым склады. Создается иллюзия динамичного торгово-финансового оборота. "Заводы запущены", неплатежи развязаны — все, как и было обещано А.Лукашенко.

Правда, создается уникальная среда для коррупции и злоупотреблений. Впрочем, власть знает, как бороться с чиновничьими соблазнами методом ротации номенклатурных кадров и профилактической отправкой особо зарвавшихся чиновников в СИЗО. Начало положено...

Пр. Агафона, Карнілы, Льва.
К. Адрыяна, Вацлава, Тэафіла, Фрэдэрыка.

САКАВІК
**5**
'99 ПЯТНІЦА

Усход 6.49
Захад 17.55
Даўж. дня 11.06

Поўня
2 сакавіка
Захад 9.07
Усход 22.38

### Точка зрения

## Судьи Елена Терешкова и Валентина Зенькевич президентскими нормативными актами не руководствуются?

Судебные процессы над членами Центральной комиссии по выборам президента Республики Беларусь, которую утвердили депутаты Верховного Совета 13-го созыва, выявили характерную деталь: судьи Ленинского района столицы Е.Терешкова и В.Зенькевич не признают... Конституцию, введенную Александром Лукашенко после референдума 1996 года.

Так, статья 62 Конституции предоставляет гражданам Республики Беларусь право пользоваться в суде помощью своих представителей, а Елена Терешкова и Валентина Зенькевич ходатайство членов комиссии воспользоваться помощью своего представителя отклонили.

Не признают эти судьи и разработанный главой государства Закон "О собраниях, митингах, уличных шествиях, демонстрации и пикетировании". В данном законе четко и ясно (статья 1) написано, что проведение собраний в закрытых помещениях государством не регламентируется, а Е.Терешкова и В.Зенькевич, невзирая на это, судили членов комиссии за нарушение... порядка проведения собрания.

Но, в соответствии с президентским законом (статья 2), собрание — публичное обсуждение в коллективе или произвольной группой граждан действий лиц, организаций, событий. Центральная комиссия по выборам президента публично ничего не обсуждала, а собралась в кафе, и, помимо членов комиссии, других граждан в помещении не было (журналисты в данном случае не в счет). Кроме того, комиссия не является коллективом или группой граждан. Это — орган. А органы, как известно, проводят заседания, а не собрания (заседание профкома, заседание редколлегии и т.д. — **В.Щ.**)

Похоже, что судьи Ленинского района г.Минска Е.Терешкова и В.Зенькевич стали на путь прямого подрыва авторитета президента. В постановлении о наложении административного взыскания на членов комиссии данные судьи написали, что Центральная комиссия по выборам президента не зарегистрирована в установленном порядке в Минюсте (!). Это же прямой намек на то, что незаконна Центральная комиссия по выборам и проведению республиканских референдумов, которую возглавляет Лидия Ермошина, назначенная президентом.

Да и не надо комиссии регистрироваться. Михаил Сухинин, официальное лицо Министерства юстиции, на вопрос "Народной воли" пояснил, что государственные органы регистрации не подлежат, они утверждаются органом, их создавшим. Центральную комиссию по выборам президента образовали депутаты Верховного Совета 13-го созыва. И именно законодательный орган несет в данном случае ответственность за возможные нарушения, но никак не члены комиссии.

Похоже, президентская "вертикаль" начала разваливаться, даже не дожидаясь результатов выборов.

**Валерий ЩУКИН.**

### Дэмакратыя па-беларуску

## Кандыдаты ёсць. Ці будуць дэпутаты?

*Закончылася вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў. Выбары аб'явіў сваім указам прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Апазіцыйныя сілы Гродзеншчыны, згодна з аднагалосным рашэннем, прынятым 2-й Асамблеяй дэмакратычных няўрадавых арганізацый, у выбарах не ўдзельнічаюць.*

Прапрэзідэнцкія грамадскія ўтварэнні, наадварот, памкнуліся за дэпутацкімі мандатамі. Многія ўздыхнулі с палёгкай, справядліва мяркуючы, што ў барацьбе з дэмакратычнымі вылучэнцамі яны наўрад ці здолелі б прайсці перадвыбарчы марафон з пераможнымі для сябе працэнтамі. Сваіх кандыдатаў вылучылі партыі Народнай згоды, кампартыі небезвядомага ленінца, а разам з тым і намесніка старшыні Мінскага гарвыканкама па ідэалагічнай рабоце таварыша Чыкіна, СС "Славянскі сабор". Па дамах і кватэрах збіралі подпісы актывісты некалькіх ініцыятыўных груп.

На 40 месцаў у гарадскі заканадаўчы орган прэтэндуе 127 кандыдатаў, ці па тры асобы на месца. 60 дэпутатаў будуць прадстаўляць інтарэсы сваіх выбаршчыкаў у абласным Савеце. Заяў са згодай балаціравацца зарэгістравана 90, ці ўсяго 1,5 чалавека на месца. Адчуваецца вопытная рука рэжысёра гэтага спектакля. Праўда, яшчэ можна чакаць змен падчас рэгістрацыі.

Цікавасць выклікаюць таксама асобы, якіх вылучылі найперш працоўныя калектывы. Як у добрыя савецкія часы, тут назіраецца адпрацаваная прапарцыянальнасць. Ёсць кіраўнікі, інжынерна-тэхнічныя работнікі, рабочыя, жанчыны, моладзь. Зайздросную актыўнасць праявілі былыя воіны-інтэрнацыяналісты.

Быць вылучаным — яшчэ не азначае быць абраным. Дагэтуль не створаны гарадскія Саветы мінулага склікання ў Гродне, Лідзе, Смаргоні. Па выбарчым Законе, прынятым так званай Палатай прадстаўнікоў, зрабіць гэта будзе нялёгка і цяпер.

Няўдзел дэмакратычных арганізацый зусім не азначае поўнага ігнаравання выбараў. Уважліва будуць вывучаны спісы кандыдатаў у дэпутаты. Нялёгка прыйдзецца тым, хто ў часы адлігі прыкідваўся прыхільнікам рэформ. Надышоў час зняць маскі. Пярэваратні непатрэбны любой уладзе, бо гэтыя людзі заўсёды шукаюць выгод асабіста для сябе, і ніякія праблемы выбаршчыкаў іх не хвалююць. Супраць такіх кандыдатаў будзе разгорнута шырокая агітацыя ўсімі дазволенымі сродкамі.

І яшчэ. Усе кандыдаты ў дэпутаты павінны добра ўсвядоміць вялікую адказнасць, якая кладзецца на іх плечы. Дэмакратычны друк будзе дапытліва сачыць за работай сесій Саветаў усіх узроўняў. Любое пагаршэнне сацыяльна-эканамічнага жыцця насельніцтва засведчыць персанальную адказнасць кожнага канкрэтнага дэпутата. Гэта знойдзе сваё адлюстраванне ў друку.

Да выбараў застаўся час, каб крытычна асэнсаваць сваё ўваходжанне ва ўладу. Ці ва ўсіх цяперашніх кандыдатаў хопіць моцы вытрымаць выпрабаванні дэпутацтвам?

**Антон ЛАБОВІЧ.**

*Гродна.*

### Права человека

## Председатель Центральной комиссии по выборам Виктор Гончар отвергает решение суда и добивается свободы сухой голодовкой

Сергея Ободовского, члена Центральной комиссии по выборам президента Республики Беларусь, выпустили из окрестинской "тюрьмы" за три дня до истечения срока ареста.

Нет, "приговор" вышестоящим судом не отменен, протест прокурора на несправедливый приговор не поступал. Не было и высочайшей президентской амнистии, как бельгийскому водителю, осужденному за гибель белорусских детей.

Свое дело сделала голодовка протеста. Сергея Викторовича в тяжелейшем состоянии машина "скорой помощи" увезла из "тюремной" камеры в больницу. Медики вывели голодающего члена комиссии из критического состояния и официально заявили, что здоровье С.Ободовского не позволяет ему в настоящее время находиться под арестом. И администрация приемника-распределителя члена Центральной комиссии по выборам Сергея Ободовского вынуждена была из-под стражи освободить.

Сергей Викторович после выхода на свободу рассказал, что арестованных членов комиссии разбросали по разным камерам. Лично его содержали в 12-й, Анатолия Гуриновича — в 7-й, Бориса Гюнтера и Алеся Беляцкого (правозащитный центр "Весна-96") — в 11-й камере.

Председателя Центральной комиссии В.Гончара поместили в "щукинскую" камеру N13. Как уже сообщалось, Виктор Гончар проводит голодовку протеста против вопиющего беззакония, творимого белорусской милицией и белорусским судом по отношению к членам комиссии.

Администрация приемника-распределителя факт голодовки подтвердила. Более того, было сказано, что проводится сухая голодовка — Виктор Гончар отказывается от воды и медицинской помощи. Из других источников стало известно, что на все обращения окрестинского персонала Виктор Иосифович отвечает: "Требую свободы!"

Такова белорусская реальность — добиться справедливости приходится путем нанесения вреда своему здоровью.

Будем надеяться, что через пять месяцев кошмар этот прекратится.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

